наша свабода

№84(171) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

10 ЖНІЎНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Сямён Домаш патрабуе гарантыяў

Сустрэчу з журналістамі 9 жніўня патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Сямён Домаш пачаў заяваю, што «на сённяшні момант мая каманда валодае істотным рэсурсам для тэхнічнага і арганізацыйнага правядзення кампаніі ва ўмовах татальнага прэсінгу з боку цяперашніх уладаў».

«У маёй камандзе сабраліся ўсе актывісты, якія працуюць у "трэцім сектары", і значная частка прадстаўнікоў беларускай палітычнай апазіцыі. Падругое, са мной працуюць як у цэнтральным штабе, так і ў рэгіянальных штабах знакавыя асобы... Па-трэцяе, на падтрымку мяне скіраваныя інфармацыйныя цэнтры ў рэгіёнах. Па-чацвёртае, на базе рэгіянальных арганізацыяў мы сфарміравалі выбарчыя штабы, якія не саступаюць штабам Лукашэнкі», — так патлумачыў сваю гатоўнасць да барацьбы С.Домаш.

«Я сёння пацвярджаю, што застаюся прыхільнікам пагаднення, дасягнутага на паседжанні «пяцёркі» 21 ліпеня. Тым не менш сёння палітычныя партыі, грамадскія рухі прапануюць канкрэтызаваць дамоўленасці «пяцёркі»... Паколькі сёння названы адзіны кандыдат, і я, і мая каманда павінны працаваць на адзінага кандыдата. Але мае прыхільнікі патрабуюць пэўных гарантыяў перад тым, як уключыцца ў работу пад кіраўніцтвам адзінага штаба. Лічу, што гэта нармальныя патрабаванні, калі адзін з кандыдатаў здымае сваю кандыдатуру на карысць другога», — заявіў Сямён Домаш. Мінулай суботай, 4 жніўня, прэтэндэнт прапанаваў У.Ганчарыку падпісаць пагадненне паміж «двума». «У ім указвалася, што прэтэндэнт, які здымае сваю кандыдатуру на карысць адзінага кандыдата, павінен займаць кіруючае месца ў аб'яднаным выбарчым штабе і ў выпадку перамогі будзе прызначаны кіраўніком урада з шырокімі паўнамоцтвамі. Гэта два прынцыповыя моманты, на якіх настойваюць мае прыхільнікі... Мы з Уладзімірам Іванавічам дамовіліся сустрэцца, каб абмеркаваць тэкст гэтага пагаднення. Аднак сустрэчы сам-насам не адбылося, бо прысутнічалі ўсе ўдзельнікі «пяцёркі», якія заявілі, што нязгодныя, каб мы заключылі якое-небудзь пагадненне, і прапанавалі, каб я зняў кандыдатуру на карысць Ганчарыка без усялякіх дамоваў... Я спадзяюся, што ў бліжэйшыя два дні здаровы сэнс пераможа, і пагадненне будзе падпісанае. Калі не – значыць, камусьці непатрэбная кансалідацыя, непатрэбная перамога», — заявіў Сямён Домаш.

**Рыгор БУЯН**

## Режим препятствует международным наблюдателям

Посольство Беларуси в Лондоне отказало в визе Эмме Грей, консультанту британского отделения Комитета защиты журналистов, которая собиралась наблюдать условия работы прессы в Беларуси перед президентскими выборами 9 сентября. Посольство не сообщило официальной причины, по которой министерство иностранных дел отказало удовлетворить её просьбу.

«Тот факт, что Комитету препятствуют во въезде в Беларусь, ещё раз демонстрирует, что режим Александра Лукашенко безжалостно противостоит свободе прессы», — сказала исполнительный директор КЗЖ Энн Купер. «Эта тактика отказа в визах – к сожалению, полностью соответствует попыткам правительства заставить замолчать независимых и оппозиционных журналистов и всех, критикующих власть».

Окончание на стр.3

# ЦВК расставіў кропкі над «і»

*8 жніўня Цэнтральная выбарчая камісія расставіла ўсе кропкі над «і» ў кампаніі па зборы подпісаў за патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты. Толькі чатыры прэтэндэнты прайшлі стотысячны парог; спробы Міхаіла Марыніча і Леаніда Сініцына даказаць, што і яны сабралі па 100 тысячаў подпісаў, аказаліся бясплённымі. Заява старшыні БНФ «Адраджэньне» Вінцука Вячоркі пра масавыя парушэнні заканадаўства з боку ініцыятыўнае групы А.Лукашэнкі і асабіста першай асобы Беларусі не задаволеная.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

### «Няўдачнікі»

Па статыстыцы Цэнтрвыбаркама, па выніках кампаніі па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатамі ў прэзідэнты толькі чацвёра прэтэндэнтаў: лідэр ЛДП Сяргей Гайдукевіч, старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, кіраўнік Гродзенскага аб'яднання «Ратуша» Сямён Домаш ды Аляксандр Лукашэнка — працягнуць прэзідэнцкую гонку. 12 прэтэндэнтаў выбылі з барацьбы з-за адсутнасці неабходнай колькасці подпісаў выбаршчыкаў у іхнюю падтрымку: прадпрымальнік Юрый Данькоў (прызнаныя сапраўднымі 62.039), кіраўнік АТ «Атлант» Леанід Калугін (91.345), лідэр Партыі камуністаў Сяргей Калякін (93.562), былы міністр абароны Павел Казлоўскі (79.351), былы супрацоўнік КДБ Канстанцін Кананові̇ч (741), Зянон Пазьняк (70.915), дэпутат Палаты прадстаўнікоў Сяргей Скрабец (12.324), дырэктар сумеснага нямецка-беларускага прадпрыемства «МІМ-Беларусь» Віктар Цярэшчанка (68.879), былы прэм'ер Міхаіл Чыгір (85.323) і старшыня прафсаюза работнікаў АПК Аляксандр Ярашук (68.159).

Пытанне пра рэгістрацыю С.Гайдукевіча, У.Ганчарыка, С.Домаша і А.Лукашэнкі Цэнтрвыбаркам разгледзіць 14 жніўня.

### Праўдашукальнікі

Асобным пунктам Цэнтрвыбаркам разглядаў заявы Міхаіла Марыніча і Леаніда Сініцына пра тое, што яны сабралі больш за 100 тысячаў подпісаў, а таму таксама маюць права працягнуць барацьбу за прэзідэнцкае крэсла. Па выніках праверкі подпісаў ЦВК залічыў на карысць М.Марыніча 91.021 подпіс, на карысць Л.Сініцына — 80.540 подпісаў.

6 жніўня члены ініцыятыўнае групы Л.Сініцына падалі ў ЦВК 24 заявы, паводле якіх нібыта подпісы перададзеныя намеснікам старшыняў райвыканкамаў шэрагу раёнаў, але яны не ўлічаныя пры падвядзенні вынікаў. Пры аргументацыі гэтых заяваў Л.Сініцын сказаў, што «ў дачыненні да мяне парушаная Канстытуцыя».

Заканчэнне на стар.3

# Лукашоу-2001

*Так называемое Белорусское так называемое телевидение в среду вечером наконец порадовало своих зрителей более-менее стоящим ток-шоу с участием своей главной телезвезды по фамилии Лукашенко. Шоу действительно удалось.*

### «А поворотись-ка, сынку, в Дрозды!»

Олеся Лучанинова из РИА «Новости» прозрачно намекнула Александру Лукашенко, что его заждалась семья, нужно больше времени сыновьям уделять.

В ответ Александр Лукашенко почему-то вспомнил «грязь» из свежей статьи Анатолия Лебедько «Сколько стоит «президент» Лукашенко?» – точнее, всего один фрагмент насчет квартиры для Вити Лукашенко стоимостью 70 тысяч долларов.

*«Если только этот факт подтвердится – я не президент»,* – торжественно заявил батька Вити, сообщив о совместном проживании с сыном в Дроздах и решив уже не реагировать на мелочи вроде упомянутой в той же статье дроздовской ванны за 20 тысяч долларов. Возможно, 20 тысяч для него – еще не деньги.

Поэтому на следующий вопрос Олеси – видит ли он среди других кандидатов в президенты «достойные себе оппонентов» – последовал удивительно правильный ответ: *«Вы знаете, если эти люди зарегистрированы – значит, они люди достойные. Они пользуются равными правами. Они такие же кандидаты, как и я. И насколько достоин будет тот или иной кандидат управлять страной – решит народ. Я действительно так считаю».*

Впрочем, это не помешало Лукашенко на этой же встрече приписать Владимиру Гончарику 1 год жизни и заявить, что тот на 63-м году вдруг решил реформировать страну.

### «Воруй со мной. Воруй как я. Воруй меньше меня»

Вячеслав Зенькович из придворного агентства «Интерфакс», в былые времена большой друг первого президентского управделами, не мог не поинтересоваться: «Еще совсем недавно невозможно было себе представить, что Титенков и Божелко уйдут из вашей команды. Но сегодня они как бы уже и примкнули к оппозиции. Почему это произошло?»

*«Воровать меньше надо!»* – на удивление кратко ответил Лукашенко. То есть если б его назначенцы воровали чуток меньше, то и проблем бы у них не было. Забыл Александр Григорьевич, что Титенкова он уволил с объявлением благодарности, а Божелко – «в связи с переводом на другую работу». Теперь наконец все узнали, что за этими формулировками кроется увольнение за воровство.

### «Меня раздевали и крутили, а теперь спекулируют и шантажируют»

Белорусское телевидение не могло удержаться от хамских обрезаний, и вместо вопроса журналистки «БДГ» Ирины Халип, попутно обвинив ее в хамстве, оставило только часть: «Лыжные гонки на асфальте посреди лета».

Казалось, даже Лукашенко удивился БТшному сокращению и переспросил: *«Чего-чего?»*

Ирина повторила, а он снова переспросил: *«А надо зимой было на асфальте на роликовых лыжах?»*

Столь умный вопрос госпожа Халип достойно парировала: «Я вообще не знаю, зачем существуют роликовые лыжи, но вопрос не об этом.

Почему, Александр Григорьевич, вы не хотите пройти независимое психиатрическое обследование? Ведь это в любом случае было бы выгодно для вас: либо вы всем сплетникам утираете нос собственным отменным психическим здоровьем, либо вы дальше живете спокойно, зная, что не несете ответственности ни за какие свои деяния, в том числе и преступные, поскольку на момент их совершения вы были невменяемы. Спасибо».

Господин Лукашенко ответил благодарностью: *«Ну спасибо за весьма откровенный вопрос, Ирина. В одном заявлении – нескольких предложений – меня еще никто так не обзывал ни преступником, вменяемым-невменяемым и так далее. Но тем не менее спасибо за искренность.*

*Вы сказали о некоей независимой комиссии. Вы будете ее возглавлять? Или может мне в США поехать пройти эту комиссию?»*

Ирина пояснила Лукашенко свою мысль: «Ну Ельцин в своем время для того чтобы его признали здоровым, обратился к помощи западного хирурга Дебейки, и все поверили».

Александр Лукашенко наконец ответил: *«Ельцин обратился к Дебейки по случаю – не дай бог мне обратиться по тому случаю. Это во-первых.*

Окончание на стр.3

## Радыё «Свабода» і Лукашэнка

Павелічэнне ўдвая з гэтага панядзелка аб'ёму вяшчання на Беларусь радыёстанцыі «Свабода» А.Лукашэнка назваў прамым умяшаннем ва ўнутраныя справы Беларусі. Паводле Лукашэнкі, гэты крок — "гранічна недружалюбны" ў дачыненні да Беларусі.

## Пераслед не спыняецца

Праваабарончая арганізацыя *Amnesty International* абвінаваціла беларускія ўлады Беларусі, што тыя не спыняюць пераслед праваабаронцаў. У адмысловай справаздачы даводзіцца, што на іх працягваюцца чыніцца напады, а разнастайныя мірныя акцыі пратэсту спыняюць міліцыяй.

## Наваполацк – горад-труна

Наваполацкая моладзь правяла ў гэтым горадзе пікет, каб прыцягнуць увагу грамадства да экалагічнай сітуацыі ў горадзе. Паводле радыё «Рацыя», удзельнікі акцыі каля Дома культуры абляпілі аўтобус плакатамі «Наваполацк – горад-труна» і «Змагайся, каб выжыць».

## Скарга з Узброеных Сілаў

Прафсаюз працоўных Узброеных Сілаў звярнуўся да прэм'ер-міністра У.Ярмошына з просьбай перагледзець сістэму аплаты працы працаўнікоў і службоўцаў Узброеных Сілаў. 10 тысяч чалавек з іх атрымліваюць крыху больш за 50.000 рублёў.

## Камера для міліцыянтаў

З наступнага года ў шматлюдных месцах Мінска будуць усталяваныя падвясныя відэакамеры. Сігнал з іх будзе трансляваецца на ўстаноўленыя ў аператыўна-дзяжурнай службе ГУУС Мінгарвыканкама маніторы.

## Героі школьных алімпіядаў

Сёлета 28 беларускіх школьнікаў бралі ўдзел у міжнародных алімпіядах і 26 з іх вярнуліся з медалямі. Паводле міністра адукацыі, нашы школьнікі на алімпіядах, якія праводзяцца сярод усіх краінаў свету, заўсёды ўваходзяць у дзясятку лідэраў.

## Чыгуначная аварыя пад Гомелем

7 жніўня непадалёк ад Гомеля здарылася крушэнне грузавога цягніка. З рэек сышлі 13 пустых чыгуначных цыстэрнаў, пашкоджана некалькі дзесяткаў метраў каляі. На шчасце, абышлося без ахвяраў.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1455

# Лукашоу-2001

*Окончание, начало на стр.1*

*Во-вторых, я же понимаю, что вы меня просто шантажируете. Но знаете — даже я не могу поверить, что вы меня считаете невменяемым человеком. За 7 лет меня уже и одевали, и раздевали, и вертели, и крутили. Я не хочу сказать, что я не делал каких-то там ошибок, поведение мое было абсолютно всем такое, что всем нравилось. Я абсолютно... Тем более я человек эмоциональный, и это даёт повод вам в том числе спекулировать на этой теме. Ну, не вам, Ирина, — вашим хозяевам. Поэтому вот этот вот — постановка вопроса – «независимая комиссия», зависимая, — это ж не для того, чтобы я прошел какие-то обследования. Это ж не для этого делается. Меня просто шантажируют».*

Однако Лукашенко все же регулярно поддается шантажу: *«Ежегодно президент проходит медицинские.. медицинскую комиссию по всем направлениям».* Только народ об этом не знает. Еще начальник президентского УОПИ Александр Федута в конце 1994 года обнародовал первый и пока последний официальный диагноз Лукашенко: «дискогенный радикулит». Но даже тогда журналисты не могли получить бюллетень о состоянии президентского здоровья. А Иван Титенков уверял всех совсем недавно, что именно Александр Лукашенко единственный из всех высших должностных лиц медкомиссию как раз и не проходит.



### «Но я задам другой вопрос, чтоб вас не удовлетворить»

Между тем новая президентская корреспондентка БТ Светлана Конопацкая (бывший собкор АТН в Гомеле) усмотрела в вопросах независимых журналистов стремление «загнать собеседника в угол, вплоть до хамства, — надо отдать должное, Александр Лукашенко блестяще прошел тест на уравновешенность, и в результате авторы самых каверзных вопросов получили ответы, которые, конечно же, их не могли удовлетворить».

Почему неспособность удовлетворительно ответить на вопросы свидетельствует о прохождении теста на уравновешенность, Конопацкая разъяснить не смогла. Как не смогла и оставить в эфире вопрос Ольги Тарасевич из «Белорусской газеты» о предвыборных нарушениях со стороны власти. Вопроса в эфире БТ не было, зато был «ответ»: *«Вы, конечно, вправе, Ольга, задавать мне и такие вопросы, но я вам задам другой вопрос».*

### «Документов Гончарика нет. И ФБР не будет»

Марине Коктыш из «Народной воли» повезло больше – ее так грубо не резали: «Аляксандр Рыгоравіч, калі вы асабіста не маеце ніякіх дачыненняў да знікнення вядомых асоб – дарэчы, вашых галоўных палітычных апанентаў, — то чаму б вам не аддаць загад аб стварэнні незалежнай міжнароднай камісіі па вывучэнні і ацэнцы дакументаў, якія абнародаваў спадар Ганчарык?»

В ответ Александр Лукашенко заявил: *«Нет документов! Нечего опровергать. Марина, нечего опровергать! Понимаете? Это вам хочется, чтоб это было, были как документы. А документов нет. Поэтому и опровергать нечего. Это, во-первых. Во-вторых, если вы думаете, что Лукашенко сегодня – вы опять мне говорите о какой-то (как по здоровью, так и по этим вопросам) независимой комиссии – международной. То есть да, стварыць незалежную міжнародную камісію. Если вы хотите сказать, что я завтра приведу, как это вы писали в газетах, ФБР сюда, еще какие-то западные структуры и они будут вести следствие, — вы тоже этого не дождетесь. Потому что я знаю, какие выводы Запад сделает. Это все там сварено. Это варево сварено там».*

Господин Лукашенко, наверное, не успел еще почитать свою «Советскую Белоруссию» за 2 августа, где в приложении «Союз» ясно говорилось: «Гончарик самолично разослал по газетам материалы, выкраденные из разных уголовных дел и нуждающиеся в проверке». Так что есть документы! Причем не с Запада, а «из разных уголовных дел» в Беларуси. А то, что Лукашенко знает, какие выводы Запад сделает после необходимой проверки, мы тоже не ставим под сомнение – достаточно перечитать уже обнародованное господином Гончариком.

### «Как ваше здоровье? Как в еврейском анекдоте – обязательно сбегу»

Ирина Халип, замеченная ранее на акциях оппозиции с израильским флагом, поимела с Лукашенко следующий диалог:

— После проигрыша на выборах, Александр Григорьевич, вы останетесь в стране или сбежите вслед за Божелко? Спасибо.

— *Обязательно сбегу.*

— А куда – туда, где деньги, или туда, где защитят?

— *В Израиль поеду... Иринушка, не дождетесь.*

— Дождусь!

— *Не дождетесь – это абсолютно искренне.*

### БэТэкам закон не писан – писан им декрет

На прощание Светлана Конопацкая сообщила, что присутствующие «покидали этот зал все в разном настроении: представители оппозиционных изданий с полными блокнотами надерганных из контекста фраз, а у представителей государственных СМИ было неловкое ощущение того, что на этой пресс-конференции их права несколько ущемили в пользу оппозиции, которая, дорвавшись до микрофона, уже не могла оторваться от него, пока не использовала все запрещенные приемы и нарушила все неписаные законы чести журналиста».

То ли Конопацкая хотела, чтобы независимые журналисты ушли с пустыми блокнотами, то ли ожидала увидеть в блокнотах точную стенограмму всех ответов Александра Лукашенко, но не понятно, почему она сама из контекста более чем 2-часовой беседы даже 30 минут не надергала. Видимо, потому, что ее несколько ущемили – уже минимум 3 года оппозиционную прессу к Лукашенко на пушечный выстрел не подпускали, а тут еще и позволили вопросы задать не согласованные заранее, как привыкла Конопацкая.

Ведь ей привычно жить по неписаным законам. Писаные – вроде Конституции и закона «О печати» — в Беларуси уже 7 лет не работают.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

# Пагуляў у палітыку – і хопіць!

5 з'езд Беларускай партыі працы, якую ўзначальвае Аляксандр Бухвостаў, заклікаў А.Лукашэнку сысці з выбарчай кампаніі і з палітычнай арэны ўвогуле. Адпаведная заява прынятая 8 жніўня на з'ездзе Беларускай партыі працы.

У заяве «Аб сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў» гаворыцца, што кансервацыя існуючага эканамічнага курсу кіраўніцтва Беларусі прывядзе да эканамічнай катастрофы: зніжэння ўзроўню жыцця насельніцтва, працягу эканамічнай і культурнай самаізаляцыі. Таму для БПП неабходнасць сыходу цяперашняй «партыі ўлады» на чале з А.Лукашэнкам бачыцца неабходнай. «Пакіданне палітычнай арэны Лукашэнкам і яго камандай дазволіць змяніць эканамічную палітыку, правесці рэформы і рэальна палепшыць жыццё насельніцтва краіны... Краіна патанае ў беднасці, людзі змарыліся ад некампетэнтнасці і бездапаможнасці ўладных структураў. Урад замест прыняцця канкрэтных, рашучых захадаў для паляпшэння сітуацыі рэалізуе папулісцкія абяцанні прэзідэнта, якія даюцца толькі для падтрымкі свайго рэйтынгу на выбарах», — гаворыцца ў заяве.

Камандна-адміністрацыйныя метады кіравання прывялі прадпрыемствы да поўнай залежнасці ад указанняў зверху. «У выніку забяспечанасць абаротнымі сродкамі знізілася да 14 працэнтаў, расце колькасць стратных прадпрыемстваў (каля 40 працэнтаў афіцыйна прызнаны стратнымі), зніжаецца іх рэнтабельнасць (12 працэнтаў замест належных 35), зношванне асноўных фондаў складае 80 працэнтаў, расце лавіна неплацяжоў, крэдыторская запазычанасць дасягнула 50 працэнтаў ад узроўню валавога ўнутранага прадукту...», — гаворыцца ў заяве 5 з'езда Беларускай партыі працы.

**Рыгор БУЯН**

# Режим препятствует международным наблюдателям

*Окончание, начало на стр.1*

Отказ в визе Э.Грей – всего лишь последний случай в череде отказов, которые получили группы по защите прав человека и другие международные наблюдатели. 31 июля было отказано в белорусских визах наблюдателям из ОБСЕ. 26 июня двум представителям организации Article 19, которая базируется в Лондоне и деятельность которой направлена против цензуры, также было отказано в визе. А 26 апреля Фраймут Дуве, представитель ОБСЕ по свободе средств массовой информации, отменил визит в Беларусь, после того как один из его главных советников не смог получить визу.

Комитет защиты журналистов выступил с критикой в адрес белорусских властей в связи с жестким контролем государства электронных СМИ, фактами запугивания и открытых нападок на независимые СМИ.

«Минские аналитики говорят, что отражение текущей кампании в СМИ напоминает кампанию перед парламентскими выборами в октябре 2000, когда международные наблюдатели критиковали монополию и пристрастность государственных СМИ. Сегодня ситуация ничем не отличается: пролукашенковская пропаганда наполняет эфир, а оппозиционные кандидаты либо игнорируются, либо оскорбляются.

Источники в столице сообщили КЗЖ, что комментаторы белорусского государственного телевидения все время сравнивают оппозицию с фашистами, и внушают мысль, что оппозиционные партии финансово зависят от сил на Западе, которые собираются захватить страну.

Белорусские избиратели могут найти альтернативные взгляды только в независимых и оппозиционных газетах. Эти издания дороги и выходят малыми тиражами, т.к. государственная монополия на печать, распространение и рекламу создаёт экономические препятствия для негосударственных СМИ.

Кроме государственного контроля, КЗЖ имеет факты запугивания и открытых нападок на независимые СМИ. Наиболее вопиющий факт – исчезновение оператора ОРТ Дмитрия Завадского 7 июля 2000 года».

**Хартыя'97**

# ЦВК расставіў кропкі над «і»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

ЦВК правёў расследаванне. Аказалася, што ніхто з членаў каманды Л.Сініцына не перадаваў 281 подпіс на 35 падпісных лістах намесніку старшыні Клічаўскага райвыканкама спадару Пятрову, бо чалавек з такім прозвішчам ніколі не працаваў і не працуе на гэтай пасадзе. Аналагічная сітуацыя склалася і па астатніх 23 заявах. Таму ЦВК залічыла на карысць прэтэндэнта 80.540 подпісаў, а дакументы накіраваныя «на прававую ацэнку ў пракуратуру Рэспублікі Беларусь».

Міхаіл Марыніч у сваім выступе адзначыў, што «факты знікнення подпісаў, падпісных лістоў стануць вядомыя ўжо сёлета». «Ёсць факт, што на 7 жніўня па зверцы колькасць «згубленых» подпісаў склала каля пяці тысячаў подпісаў, якія ЦВК адмовіўся аб'ектыўна расследаваць». М.Марыніч упэўнены, што «дадзеная ўстаноўка любымі сродкамі не дапусціць маёй рэгістрацыі». Гаворка ідзе пра 4.500 подпісаў, нібыта знойдзеных у Маскоўскай і Фрунзенскай камісіях Мінска. Аднак праверкай было ўстаноўлена, што ў дадзеным выпадку мела месца «тэхнічная памылка», калі за адну партыю здадзеных лістоў выдаваліся па дзве распіскі.

М.Марыніч назваў праведзенае пракуратурай і Цэнтрвыбаркамам расследаванне неаб'ектыўным і заявіў, што лічыць «немагчымым далейшае супрацоўніцтва» з ЦВК, хаця і папрасіў дазволу ЦВК на праверку подпісаў да 14 жніўня. Былы пасол абяцаў таксама звярнуцца са скаргай у Еўрапейскі суд па правах чалавека.

### Ім зоймецца пракуратура

Найбольшыя парушэнні заканадаўства зафіксаваныя з боку ініцыятыўнае групы прадпрымальніка Юрыя Данькова. «Такой пагарды выбарчым заканадаўствам не дапусціла ні адна ініцыятыўная група, апроч Юрыя Данькова», — сказала член ЦВК Надзея Кавалёва. У выніку праверкі подпісаў аказалася, што 98% правераных подпісаў аказаліся несапраўднымі.

«У падпісных лістах стаялі па 5-6 аднолькавых прозвішчаў; у Фрунзенскім раёне ў спісы ўключаныя людзі, якія і ведаць не ведалі, што яны падтрымліваюць Данькова; на няшчасце прэтэндэнта, у спісах аказалася і старшыня камісіі Фрунзенскага раёна, якая і выявіла ўсе гэтыя парушэнні: фіктыўныя звесткі пашпартоў, у спісы ўключаныя дзеці 93, 96, 98 гадоў нараджэння», — падкрэсліла старшыня Мінскай гарадской выбарчай камісіі. Такая знявага выбарчага заканадаўства з боку дэпутата Мінскага гарсавета Ю.Данькова вымусіла Цэнтрвыбаркам накіраваць усе дакументы ў пракуратуру Беларусі.

### «Лукашэнка не вінаваты»

Цэнтрвыбаркам палічыў неабгрунтаванай скаргу старшыні партыі БНФ «Адраджэньне» Вінцука Вячоркі на парушэнне выбарчага заканадаўства з боку ініцыятыўнай групы і асабіста А.Лукашэнкі. У заяве В.Вячорка прасіў адмовіць А.Лукашэнку ў рэгістрацыі кандыдатам з-за парушэнняў заканадаўства. В.Вячорка звярнуў увагу, што ў падпісных лістах па вылучэнні А.Лукашэнкі кандыдатам у прэзідэнты не быў пазначаны дакладны адрас прэтэндэнта – у графе «месца жыхарства» стаяла толькі «горад Мінск». У той жа час, адзначаецца ў заяве, астатнія ініцыятыўныя групы пазначалі ў падпісных лістах поўны адрас прэтэндэнта, як гэта і прадугледжана заканадаўствам.

Другая прычына палягае ў тым, што 2 жніўня ў газеце «Советская Белоруссия» быў апублікаваны тэкст выступлення Лукашэнкі на рэспубліканскай нарадзе з прадстаўнікамі «вертыкалі», дзе было заяўлена, што «выбары дзеючага прэзідэнта арганізоўвае «вертыкаль» улады». Гэтае выказванне, на думку В.Вячоркі, «пацвярджае факт выкарыстання А.Лукашэнкам адміністрацыйнага рэсурсу».

Апрача таго, у адрозненне ад астатніх прэтэндэнтаў, А.Лукашэнка меў інфармацыю аб ходзе праверкі якасці сабраных подпісаў. І апошняе: задоўга да рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты А.Лукашэнка пачаў агітацыйную кампанію ў СМІ. Пра гэта, на яго думку, сведчыць наступнае выказванне прэзідэнта на нарадзе з «вертыкаллю»: «Гэтыя прэзідэнцкія выбары я выйграю. З вамі гэта будзе ці без вас, але я іх выйграю». Аднак Цэнтрвыбаркам палічыў усе прэтэнзіі неабгрунтаванымі.

**Рыгор БУЯН**

# Рэстаўрацыя пасля рэстаўратараў

*У Гродне адбылася выязная калегія міністэрства культуры. Тэма — стан рэстаўрацыі помнікаў. Перад тым удзельнікі наведалі Мірскі замак, Навагрудак, Лідскі замак, а таксама агледзелі архітэктурныя помнікі Гродна. Паседжанне калегіі адбывалася ў Новым каралеўскім замку.*



Фота IREX/ProMedia

Кідалася ў вочы, што міністр Л.Гуляка пачаў паседжанне на рускай мове. Аказалася таксама, што ў мінкульце дагэтуль да калегаў звяртаюцца словам «таварышы». Праўда, ніякай ідэалогіі ў размове не было. Адзінае, было зазначана, што ўлады рэстаўруюць манастырскія комплексы ў Жыровіцах і Полацку, якімі валодае праваслаўная царква. Старшыня Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў В.Абломскі нагадаў, што падчас войнаў і зменаў улады гіне найбольш помнікаў архітэктуры. Але зусім недапушчальна, калі іх разбураюць у мірны час. Што ж, савецкая ўлада была, можна сказаць, узорным знішчальнікам помнікаў. Сёння, праўда, спецыялістаў непакоіць іншае. Аднаўленне гістарычных будынкаў па-ранейшаму лічыцца справай малаважнай. 43 працэнты грошай на рэстаўрацыю, якую субсідзіруе дзяржава, выдаюцца ў апошні квартал года, калі кліматычныя ўмовы не дазваляюць весці рэстаўрацыйныя работы. А плюс яшчэ адпаведная «кваліфікацыя» саміх выканаўцаў. Праектаваннем таксама часам займаецца хто заўгодна. У выніку — шмат браку. Трэба перарабляць, напрыклад, Лідскі замак, які аднаўляецца ўжо больш за 20 гадоў. Адзін з удзельнікаў калегіі паведаміў прысутным, што пасля наведвання замка ў Лідзе ноччу не мог спаць. Адно ў Навагрудку ўдзельнікі мелі магчымасць убачыць, наколькі якасна адрэстаўравалі Дом-музей А.Міцкевіча палякі.

Нядаўна быў складзены Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў, у які трапіў самы мінімум — 427 нерухомых аб'ектаў і 26 «рухомых». На Гродзеншчыну прыпадае 74 помнікі, з якіх ажно 55 у Навагрудку і ўсяго 3 — у Гродне. Хаця ў вобласці толькі 150 храмаў з'яўляюцца помнікамі архітэктуры. Сп. Абломскі зазначыў, што марудна адбываецца ўмацаванне схілу, на краі якога стаіць гродзенская Каложская царква. Па-ранейшаму разбураецца мураваны замкавы мост. Прычым на большасці гістарычных аб'ектаў у краіне няма ахоўных дошак. Толькі ў Брэсцкай вобласці ўлады прымусілі ўладальнікаў, і было ўсталявана 240 дошак. Каштавала кожная, дарэчы, 160 доляраў. Пра гэта крыху пазней паведаміў брэсцкі прадстаўнік. А па словах В.Абломскага, нестабільная эканамічная сітуацыя не дазваляе нармальна наладзіць рэстаўрацыйныя работы. А тут яшчэ з'яўляецца дзяржкантроль і спаганяе вялікія штрафы ў бюджэт. Гэта, разам з вялікімі — 50-працэнтнымі (па словах віцебскага прадстаўніка) падаткамі, пагражае ліквідацыяй дзяржаўных рэстаўрацыйных прадпрыемстваў. Магілёўскае, напрыклад, увесь час знаходзіцца «на картатэцы».

Беларуская мова загучала на калегіі мінкульта, толькі калі далі слова Л.Кадзевіч, якая кіруе гродзенскім абласным упраўленнем культуры. Яна напомніла пра незайздросны лёс Дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі ў Гродне. Калісьці ён быў адным з лепшых у краіне. Нагадаю: пакуль у 1992 годзе праваслаўная матушка Гаўрыіла не ўзяла штурмам былы Базыльянскі кляштар, адрэстаўраваны дзяржаўным коштам, дзе знаходзіўся музей. Баявая матушка, нядаўна прысланая аднекуль з Расіі, пры маўклівай згодзе ўладаў, выгнала супрацоўнікаў з адміністратыўнага будынка і вынесла на вуліцу мэблю. Улады падтрымалі «акупацыю», музей выселілі і ён стаў адразу занепадаць.

Пра няякасную рэстаўрацыю гаварыў таксама дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея У.Пракапцоў. У Раўбічах на касцёле дахоўка ўжо сапсавалася і частка — на Мірскім замку. У мінскім Доме В.Ваньковіча згнілі калоны, пастаўленыя пяць гадоў таму. Усе тры аб'екты з'яўляюцца філіямі музея. На думку дырэктара, улады павінны падбаць пра сам г.п. Мір, яго развіццё. Паколькі музей дасць працу жыхарам, у будучыні ў замку будуць працаваць каля 250 чалавек абслугі. Ён прапануе правесці там наступнае свята беларускай пісьменнасці, а таксама лічыць магчымым заснаваць фэст нацыянальных гістарычных спектакляў.

Не сакрэт, што Мірскі замак — адзін з галоўных аб'ектаў, куды ўлады спадзяюцца завабіць замежных турыстаў. Нездарма, з парадамі — як гэта рабіць — на калегіі выступіў намеснік міністра спорту і турызму Ч.Шульга. Па яго словах, «турыст на Нарачы не будзе ўвесь час купацца і есці марожанае». Яму трэба прапанаваць штосьці для агляду. Але каб не так далёка было да яго ехаць. Маўляў, калі рэстаўраваць «асобна стаячыя» помнікі, грошы не акупяцца. Па словах чыноўніка, апроч дзяцей і пенсіянераў — асноўных катэгорыяў адпачыннікаў, «астатнія бізнесам займаюцца» і могуць куды-небудзь выехаць толькі «наскокам на гадзінудзве». Сп. Шульга таксама з веданнем справы зазначыў, што ніякі замежнік, нават паляк, не стане ўкладаць грошы ў аб'екты ў Беларусі. Паколькі пасля спагнання падаткаў ад гэтых грошай нічога не застанецца.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што Л.Гуляка ўсё ж такі загаварыў па-беларуску і выявіў някепскія моўныя веды. Ён сказаў прысутным, што «забараніў займацца дурнотай у міністэрстве» і планаваць дзейнасць на далёкія гады. Прыкладам, «тэатральную дзейнасць» — да 2010 г., а музычную — да 2008. «Не мяшайце боб з гарохам», — сказаў ён сваім падначаленым. Бо трэба хаця б спачатку разабрацца з «Славянскім базарам» наступнага года і «Залатым шлягерам». І сапраўды.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Бацькаўшчына без Адамчыка



4 жніўня памёр адмысловы, таленавіты наш пісьменнік Вячаслаў Уладзіміравіч Адамчык. Родам ён быў з Заходняй Беларусі, з вёскі Babakomшчына. Адзін з вядучых беларускіх празаікаў, Вячаслаў Адамчык у тэтралогіі, якая складаецца з раманаў «Чужая бацькаўшчына» (1978), «Год нулявы» (1983), «І скажа той, хто народзіцца» (1987) і «Голас крыві брата твайго» (1990), даў панарамную карціну праз гады акупаванага, але нескаронага беларускага захаду – краю і зямлі, якая, няхай даруюць мне беларусы ўсходу краіны, – заўсёды былі і сёння з'яўляюцца цвярдыняй нашага нацыянальна ўсвядомленага жыцця, нашай Беларушчыны.

Апошнія месяцы, калі не гады, Вячаслаў Уладзіміравіч цяжка хварэў. Фізічная смерць спыніла пакуты. Але дух ягоны будзе неспакойны датуль, дакуль нашая Бацькаўшчына ля нас, беларусаў як захаду, гэтак і ўсходу, будзе заставацца чужой...

Пахавалі пісьменніка 6 жніўня на сталічных Кальварыйскіх могілках. Калегі і родныя сказалі неабходныя словы, мурзаты далакоп чараном рыдлёўкі абмераў труну, не парушаючы традыцыі, людзі кінулі па тыр жмені глiністага жвіру.

**Славамір АДАМОВІЧ**

# Сведчыць пра беларускую культуру

У Скарынаўскім цэнтры багата асобаў вучоных, імя якіх адразу дасць зразумець, наколькі сур'ёзнай і прафесійнай ёсць гэтая ўстанова. Мо найперш за ўсё гэта доктар філасофскіх навук, загадчык аддзела гісторыі і тэорыі культуры Уладзімір Конан. Ён робіць навуковую справу чатыры дзесяткі гадоў, і гэтая справа запатрабаваная. Хоць ягоныя артыкулы было «рэзаліся» на падыходах да старонак энцыклапедыяў.

***— Спадар Уладзімір, па якіх даследчых кірунках вы працуеце?***

— Мой аддзел быў сярод першых структурных частак створанага ў 1991 годзе Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны. Тут я пачынаў працаваць разам з арганізатарам гэтага інстытута і ягоным першым дырэктарам Адамам Мальдзісам. Мы аказаліся пачынальнікамі беларускай культуралогіі – комплекснага даследчага накірунку, прызнанага нядаўна асобнай навукай. Створаная навуковая рада ў Беларускім універсітэце культуры, якая прымае да абароны дысертацыі па гэтай спецыяльнасці. Асноўны клопат мой – даследаванне беларускай мастацкай культуры ў кантэксце хрысціянскай цывілізацыі. Дайшоў да канца 19-га стагоддзя, зараз прыступаю да мінулага стагоддзя. У сакавіку 2002 года завершыцца праца па гранце Беларускага фонду фундаментальных даследаванняў над энцыклапедычным даведнікам «Міфалагічныя і біблейскія архетыпы ў беларускай культурнай традыцыі». Мікола Крукоўскі рыхтуе канцэптуальнае даследаванне па тэорыі і філасофіі культуры, Алена Ігнацюк працуе па тэме сінтэзу сучаснай беларускай паэзіі і жывапісу.

Перспектыва залежыць ад таго, ці знайду я некалькіх ці аднаго навукоўца, якому б мог перадаць на блізкую будучыню сваю навукова-асветную справу. Адшукаць нялёгка, бо тут патрэбныя, апрача міждысцыплінарнага прафесіяналізму ў гуманістыцы і пэўных літаратарскіх здольнасцяў, яшчэ і асабісты энтузіязм, спецыфічная інтэнцыя – накіраванасць творчай волі на сцвярджэнне беларускай нацыянальнай ідэі.

***— Чым Скарынаўскі цэнтр адрозніваецца ад акадэмічных інстытутаў?***

— Наша спецыфіка — выхад са звыклай для акадэмічных даследчыкаў сваёй навуковай нішы (доўгатэрміновая апрацоўка сваёй тэмы з розных бакоў) у беларускі нацыянальна-культурны космас. Трэба навуковую фундаментальнасць спалучаць з даступнай формай выкладання і асветнай арыентацыяй. Мы арыентуемся на навукова-папулярную манаграфію, аператыўны артыкул, даклад на навуковых канферэнцыях і семінарах, спецкурсы ў ВНУ гуманітарнага профілю, публіцыстыку і артыкулы ў энцыклапедыі.

***— А ці задаволеныя вы да канца публічнасцю вашай дзейнасці?***

— Нам пакуль што цяжка выдаваць індывідуальныя і калектыўныя манаграфіі. Так, у нашым маленькім аддзеле чакаюць часу свайго выхаду ў свет



працы, якія могуць стаць навучальнымі дапаможнікамі. Гэта «Культуры і рэлігія: анталогія рэлігійнай думкі ў Беларусі» ў трох частках (па праваслаўі, уніяцтве і каталіцызме), «Грамадскія ідэалы ў Беларусі», «Асветніцкія традыцыі Ф.Скарыны», «Хрысціянства ў кантэксце нацыянальнай культуры». Напрыканцы 2001 года будзе гатовы да выдання навуковы дапаможнік для гуманітарных і мастацкіх вышэйшых навучальных установаў «Беларуская мастацкая культура 10-19 стст.». Акадэміі навук пад такія выданні выдаткоўваюцца планавыя асігнаванні. У нас падобнага прывілею няма. Хоць тое-сёе выдаецца разам з Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў. Летась – энцыклапедычны даведнік «Хто ёсць хто сярод беларусаў свету», пакуль што пра беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі ў памежных краінах.

Дырэктарка Скарынаўскага цэнтра Любоў Уладыкоўская-Канаплянік здолела набыць камп'ютэрную тэхніку для нашага будучага выдавецкага аддзела. Калі ён з'явіцца, тады чарга дойдзе да багата якіх манаграфіяў і зборнікаў, балазе, яны пакуль што не старэюць.

***— Спадар Уладзімір, натуральна, вы пачыналі з Акадэміі навук. Якая яна была тады і якая цяпер?***

— Калі я прыйшоў туды ў 1961 годзе, Нацыянальная акадэмія навук была светлай плямай на шэрым фоне. Напрыклад, ва універсітэце на гістарычным факультэце я ані слова не чуў пабеларуску. А ў Акадэміі навук я адрадзіўся як беларус. Займаўся тэмай «Развіццё беларускай эстэтычнай думкі напачатку 20 стагоддзя», чытаў «Нашу ніву», іншыя выданні, нават у 20-ыя гады. І задаваў пытанне: дзе гэты рух? Але паступова Акадэмія навук стала шарэць і апынулася пад ціскам КДБ. За Брэжневым і ў пачатку перабудовы быў арганізаваны шэраг «антынацыяналістычных» працэсаў. Тады я, дарэчы, атрымаў вымову і выйшаў з кампартыі. Цяпер там застой, у прыватнасці, што тычыцца гуманітарных навук.

***— У энцыклапедыях штогод змяшчаецца па некалькі дзесяткаў вашых артыкулаў. Як наогул вы ацэньваеце стан сённяшняй беларускай энцыклапедычнай літаратуры?***

— Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» сёння застаецца адным з самых стабільных дзяржаўных выдавецкіх цэнтраў. Я супрацоўнічаю з ім з самага першага дня заснавання – блізка 35 гадоў. Сёння, каб зарабіць грошы, выдавецтву даводзіцца, апрача шматтомных «Беларускай энцыклапедыі» і «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», рабіць шмат кніжак на заказ. Гэта дае магчымасць вяртацца да няскончаных раней праектаў, напрыклад, сёлета рыхтуецца «Беларуская тэатральная энцыклапедыя».

Добра, што апошнім часам у энцыклапедыях з'явіліся нацыянальныя героі. Раней яны былі перагрувашчаныя героямі вайсковымі, што давала ўяўленне пра Беларусь як пра дужа мілітарную краіну. Што праўда, зараз, калі глядзець па мабілізаваных сілах і тых, хто ходзіць у форме, яна ў параўнанні з еўрапейскімі краінамі такой і ёсць. З цяперашніх хібаў можна назваць зафармалізаванасць і процьму факталагічных памылак і недакладнасцяў. А энцыклапедыя – гэта ж як ювелірная справа. У іншых краінах, дарэчы, робіцца тое самае. Яшчэ заўважна, што ў нашых энцыклапедыях пераважаюць няпоўныя даследаванні, але тое трэба дараваць. Гэта непазбежнасць, суправаджаючая прарывы па багата якіх даследных тэмах. Адсюль і прыблізнасці. Але самае галоўнае, што больш няма тых адназначных палітычных ацэнак, што наяўнічалі ў энцыклапедыях за савецкім часам.

***— Што, на вашую думку, страціць Беларусь ад згубы, не давядзі Бог, Скарынаўскага цэнтра?***

— Ён у нас называецца Нацыянальным, гэта значыць, агульны для Беларусі, а знаходзіцца ў ведамаснай сістэме ўсяго толькі міністэрства адукацыі. У выніку акадэмічныя інстытуты маюць у параўнанні з намі істотныя перавагі і што да ўзроўню аплаты працы, і што тычыцца бюджэтных выдаткаў на даследаванні і выдавецкія планы.

На добры розум, калі ёсць суверэнная Рэспубліка Беларусь, то не павінен знікаць яе Нацыянальны навукова-асветны цэнтр з функцыямі інстытута краіны. Наш Цэнтр поруч з іншымі фрагментамі беларушчыны ў Беларусі ёсць фактам палітычных і духоўных рэаліяў. Знікнуць Скарынаўскі цэнтр мог бы па дзвюх прычынах – альбо не станецца кампетэнтных энтузіястаў, альбо прыпыніцца фінансаванне. Першая прычына выключаецца, бо заўсёды знойдуцца асобы, якія будуць працаваць тут нават на грамадскіх пачатках. Я – адзін з іх. Другое магчыма, але гэта ўсё роўна малаверагодна. Ёсць інфармацыя, што цяперашняе кіраўніцтва Акадэміі навук, куды напачатку свайго існавання ўваходзіў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Скарыны, шкадуе, што калісьці пазбавіліся невялічкага інстытута, які мог бы паўнавартасна прэзентаваць выхад гуманітарных даследаванняў на асветніцтва і духоўнае жыццё грамадства.

***— І ўсё ж які статус вы лічыце ідэальным для Скарынаўскага цэнтра?***

— Наогул незалежная структура пры ўрадзе, якой дзяржава фінансуе праведзеныя даследаванні. Па сутнасці, папросту наймае. У такіх умовах было найбольш плённа сведчыць пра Беларусь і беларусаў, пра іхнюю мову і культурную традыцыю.

**Гутарыў Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Плата – рабочей силой

Северная Корея собирается направить тысячи своих рабочих в Россию в счет уплаты своего многомиллиардного долга бывшему СССР, сообщает *The Times*.

Экспорт рабочей силы является основной статьей северокорейского экспорта с 60-х годов. При этом количество корейцев, отрабатывающих долги своего правительства в бывших лагерях ГУЛАГа, достигало в иные годы 30 тысяч человек.

Россия вновь начала использовать северокорейскую рабочую силу в 1995 году. В основном рабочие из КНДР заняты на лесозаготовках в ряде удаленных регионов российского Дальнего Востока.

По информации РИА «Новости», со ссылкой на минэкономразвития, в 2000 году до 90 процентов платежей по северокорейским долгам России (что составило около 50 миллионов долларов) осуществлялось поставками рабочей силы. В прошлом году в Сибири и на Дальнем Востоке трудились около четырех тысяч человек. В течение 30 ближайших лет Ким Чен Ир планирует продолжать подобную экономическую политику.

По данным *Amnesty International*, северокорейские рабочие в «лагерях ГУЛАГа» подвергаются унижениям и пыткам. Северокорейские спецслужбы свободно оперируют в закрытых поселениях к северо-западу от Хабаровска, где осуществляются лесозаготовки.

Главными статьями российского экспорта в Северную Корею в последние годы являются машины, химические удобрения, черные металлы, нефтепродукты, древесина, уголь, рыба и морепродукты.

При этом *The Times* подчеркивает, что Пхеньян нуждается в российской помощи только для развития своей энергетики и сельского хозяйства, но не для модернизации вооруженных сил.

## Нашлась золотая книга

Одним из неожиданных следствий резни в королевской семье Непала стало возвращение государству пропавшего 22 года назад ценнейшего экземпляра поэмы Фирдоуси «Шахнаме» (X век), написанного золотыми чернилами и стоящего миллионы долларов.

Пойманный при попытке продажи бесценного манускрипта бывший сотрудник службы безопасности королевского дворца заявил, что украл тысячестраничный фолиант в 1979 году из национального музея для принца Дхирендры (самого младшего брата короля), погибшего, как и еще восемь членов королевской семьи, от рук своего племянника, наследного принца Дипендры, 1 июня.

Вор-продавец пытался «спустить» манускрипт всего за 60 миллионов рупий (800 тысяч долларов), в то время как, не говоря уж об исторической ценности, одно только золото, которым написаны 60 тысяч строк поэмы, стоит несколько миллионов долларов. Об этом, по информации *AFP*, заявил шеф полиции Непала. *AFP* отмечает, что книга была тайно ввезена в Непал из Индии совсем недавно. Где она находилась все это время, начиная с 1979 года, — неизвестно. Возможно, в одной из стран Персидского залива.

Поэма величайшего персидского и таджикского поэта Абулькасима Фирдоуси (940-1020 или 1030) «Шахнаме» представляет собой хронику правления иранских шахов с 360 года до н.э. по 641 год н.э. Кроме непальского, в мире существует еще только два оригинальных экземпляра рукописи. Оба они находятся в Индии — в Нью-Дели и Патне.

## Бацькоўскія турботы

Саступаючы па моцы накалу толькі навагоднім святам, «бум» на прамысловыя тавары перад школьным сезонам стаў адчувальны яшчэ ў ліпені. Паводле намесніка начальніка ўпраўлення спажывецкага рынку Мінскага гарвыканкама Леаніда Валадзько, дэфіцыту на школьныя тавары ў беларускай сталіцы сёлета не будзе.

Патрэбы 234 тысяч мінскіх школьнікаў, з якіх 16 тысяч у гэтым годзе пойдуць у першы клас, забяспечваюць 52 гандлёвыя прадпрыемствы і больш за 300 гандлёвых кропак. З 18 жніўня на працягу двух тыдняў па выхадных на Кастрычніцкай плошчы і ў іншых раёнах горада і на працягу 25-30 жніўня ў Нацыянальным выставачным цэнтры «Белэкспа» ў павільёне на Я.Купалы,27 пройдуць кірмашы да школьнага сезона.

Калі «ўкамплектоўваць» сваё дзіця да школы таварамі айчыннай вытворчасці, то, са слоў Л.Валадзько, бацькам гэта абыдзецца не больш за 56 тысяч рублёў на аднаго вучня малодшых класаў і больш за 100 тысяч – на старшакласніка.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Бог любит «Троицу»

*Понятие «Троица» столь объемно и многозначно, что можно лишь удивляться тому, что его до сих пор не разобрали на этикетки и торговые знаки. Здесь тебе и Святая троица — Отец, Сын и Дух святой, здесь и Троицын день — радостный праздник начала лета, здесь и давняя белорусская традиция, по которой народ на сельских праздниках развлекало именно трое музыкантов. Наверное, именно последнее и послужило основным мотивом, давшим это название этно-трио под руководством Ивана Кирчука.*



Фота Ул.ШЛАПАКА

Начало группе было положено еще в конце 1995 года, когда ее руководитель Кирчук работал заместителем директора Дворца национального творчества детей и молодежи. В ту пору в его компетенции находились детские фольклорные коллективы, ансамбль «Диво», с которым он проработал около 10 лет, кукольный театр. Но, наверное, всего этого ему было мало, потому что эксперименты продолжились, и в результате родилась «Троица» — сплав элементов рока, джаза, блюза и народной музыки, удивительное переплетение настроений, направлений и стилей.

Сегодня в «Троице», кроме Кирчука, работают его бывший студент, выпускник педагогического университета Юрий Дмитриев, а также Юрий Павловский, музыкант-авангардист, более 15 лет проработавший с группой «Князь Мышкин». Сам Иван Кирчук преподает в педагогическом университете имени Максима Танка, ведет курс лекций по фольклору, делает реконструкцию старинных обрядов, является режиссером и актером кукольного театра «Батлейка», собирает этнографический музей и народные инструменты.

Самым интересным народным праздником Кирчук считает Купалье — праздник, который в одну точку собирает всю энергетику и силу земли. До этого дня нужно было собрать все травы, которые потом на протяжении целого года использовались как лекарства и обереги. К тому же на Купалье, как известно — самый длинный день и самая короткая ночь, в которую, тем не менее, многое можно успеть... Привлекает и антураж этого праздника — костер, символизирующий очищение огнем, гадания, венки и свечи, которые используются как оберег.

Когда слушаешь передачи белорусского радио и телевидения, создается впечатление, что народная музыка — сплошной протяжный стон, который у нас почему-то зовется песней. С одной стороны, по мнению Кирчука, так оно и есть, поскольку жизнь жителей белорусских деревень и раньше, и сейчас к сочинению бравурных маршей не располагала. И все народные песни звучат как сплошной плач, значит, на то у народа был повод. А с другой, замечает он, в Беларуси — богатейший фольклор, включающий в себя не только песни. Вся жизнь народа на основании многовекового опыта была подробнейшим образом расписана и регламентирована от рождения до смерти. Каждый селянин знал, какие обереги вешать над детской колыской, какие — носить беременной женщине, какой формы должна быть колыбель, какую песню петь, первый раз после зимы выгоняя в поле скотину. На все случаи жизни существовали ритуальные песни, сказки, пословицы, поговорки, игры, отшлифованные временем до немыслимой красоты и изящества.

А плачи? Гениальные импровизации, спонтанно возникающие по скорбному поводу, как крик раненой души, который уходит в никуда, потому что невозможно повторить эту боль, а записывать было некому... По мнению Кирчука, наш фольклор ничем не уступает греческим образцам. Просто искусство древней Греции мы порой знаем лучше, нежели отечественное народное творчество. Удивительное дело, сохранившись на протяжении веков лишь в памяти людей, сегодня оно, собранное и аккуратно занесенное в сорокатомную серию «Белорусское народное творчество», оказалось ненужным никому, кроме студентов и этнографов.

А вообще, по мнению музыкантов, по-настоящему белорусскую песню спеть очень трудно, но если сделать это, как надо, то заунывным стоном она казаться не будет. Но это — не каждому по плечу. Куда как проще грянуть в разгар свадьбы пьяными голосами «Цячэ вада ў ярок» — простенько, громко и всем понятно...

Отдельный разговор — музыкальные инструменты, на которых играет «Троица». Как показал опыт, народная музыка — явление глубоко интернациональное, и инструменты, на которых аккомпанируют африканским или австралийским народным напевам, удивительно органично ложатся и на белорусские песни. Что и нашло свое подтверждение в творчестве «Троицы». Кроме смыка белорусского, родных дуды, жалейки, дудки, окарины здесь оказались к месту немецкая цитра, российские гусли, инструменты из Австралии, Голландии, Индонезии, Турции... После некоторой адаптации они не только «вписались» в белорусскую народную музыку, но даже придали ей определенный колорит. Так что индонезийским инструментом белорусскую песню не испортишь, тем более, что основной интерес для музыкантов представляет тембр инструмента, а не его национальность.

В прошлом году этно-трио сыграло два сольных концерта в малом зале Дворца Республики. Оба раза зал, вместимостью более 500 мест, был заполнен полностью, и как выяснилось после, многие желающие не смогли попасть на концерт. И это притом, что к массовому искусству «Троицу» никак не отнесешь. Сами музыканты были слегка удивлены таким интересом к своему творчеству, тем более, что один из концертов проходил в середине лета, когда народ традиционно больше предпочитает пляжи, нежели залы. Слушатели у «Троицы» самые разные, от студентов до пенсионеров. Однако, несмотря на полные залы, музыканты говорят, что здесь, в Беларуси, нормально работать невозможно. На белорусской сцене — засилье российских звезд, которые приезжают сюда, и, с трудом попадая в «фанеру», выкашивают все деньги. В свою очередь «Троица», выступая в полных залах, после всех вычетов практически ничего не получала. Хорошо, хоть должны не оставались. В общем, выходило, что музыканты, давая концерты, делали подарок своим зрителям.

А на Западе группа пользуется неизменным успехом, и уже сыграла там более 200 концертов. Но для них бесконечно важно, чтобы о «Троице» не забывали здесь, дома. Выступать приходилось в Голландии, Германии, Венгрии, Боснии, Герцеговине, Словении, Хорватии... Больше всего музыкантов поражало, когда где-то за границей зал начинал непредсказуемо, восторженно, а иногда и буйно реагировать на белорусский фольклор. Трудно сказать, с чем был связан такой подъем масс, но на проходившем в Венгрии фестивале «Калялка» «Троицу» просто не хотели отпускать со сцены. Площадка располагалась на руинах замка, разрушенного задолго до фестиваля, и зрители из разных стран, воспитанные на другой культуре, без всякого перевода понимали смысл белорусских песен, настроение музыкантов, их чувства и эмоции. То же самое довелось пережить и в других странах. Фольклор интернационален, как никакой иной вид искусства.

В 1999 году «Троица» на 10 дней была приглашена в Голландию с программой и собранным Кирчуком этнографическим музеем, в котором сегодня около 1.000 экспонатов. Им предоставили помещение для экспозиции музея, и, приходя туда, голландцы полностью погружались в белорусскую культуру. Все эти десять дней «Троица» выступала при полных залах, люди подробно расспрашивали о звучавших песнях, и нередко в голосах голландцев слышалась легкая зависть к белорусам, которые сегодня могут спеть песню, которой не одна сотня лет. *«Мы играем белорусскую музыку*, — говорит Кирчук, — *и нам кажется, что, послушав нас, люди поймут, что за народ мы представляем. Мы стараемся доказать своим творчеством, что белорусы чего-то стоят».*

Иногда кажется, что сами белорусы плохо представляют, что они за народ. И мало кто помнит сегодня, что мы — очень поющая нация. На одной лишь свадьбе исполнялось до 400 песен! Какой еще народ может похвалиться таким изобилием? *«Белорусская песня — это своего рода оберег, молитва*, — говорит Кирчук, — *которая сопровождала, охраняла и защищала человека от момента рождения до самой смерти. Своя песня была на каждый случай жизни. С песнями жали, гнали на пастбище коров, рожали, женили и хоронили... Ею защищались от порчи, сглаза, болезней, ведьм»...*

Иногда кажется, что народная песня на протяжении веков была своеобразной звуковой защитой, которая охраняла нашу страну, спасала ее, помогала сохранить память, веру, надежду. А кому повезет, то и любовь.

**Владимир ТАРАЗЕВИЧ**



# Пиратская Украина

США объявили о торговых санкциях в отношении Украины, которая, по мнению американской стороны, принимает недостаточные меры по борьбе с производством «пиратской» видео- и аудиопродукции.

Потери владельцев авторских прав на незаконно копируемые диски и кассеты оцениваются более чем в $200 млн. в год, при этом американская сторона считает Украину крупнейшим производителем нелегальных дисков и кассет в Центральной и Восточной Европе. Украина будет лишена возможности для беспошлинного ввоза в США ряда своих товаров (это право США применяет к беднейшим странам мира). Кроме того, объявлено о предстоящем повышении пошлин на ряд ввозимых в США украинских товаров: металлопродукцию, одежду, минеральное сырье — на сумму примерно в $200 млн. в год.

Власти США считают, что принятые меры вынудят Киев принять обещанные меры в отношении производителей «пиратской» продукции. По оценкам американских экспертов, на Украине работает как минимум 5 фабрик, выпускающих более 70 млн. пиратских CD-дисков в год, кроме того, с нарушением авторских прав выпускаются видеокассеты и программное обеспечение. Доля нелегального ПО на Украине составляет 89%.

Ожидается, что введение санкций в отношении украинских товаров займет несколько месяцев. Ранее крупнейшим в Европе производителем нелегальной продукции считалась Болгария, однако местные власти под давлением США закрыли действовавшие в стране предприятия-нарушители. Общий объем экспортных поставок Украины в США оценивается в $800 млн. в год.


Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1745 Нумар падпісаны ў друк 9/08/2001 (15:00) Наклад – 10.100